 


# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК**

№ 37 (1281) ГОД XXV БЕЛАСТОК, 14 ВЕРАСНЯ 1980 г. ЦАНА 2 зл.


## ШЛЯХАМ ЖЫЦЦЯ

Тры пакаленні выдатных рамеснікаў выйшла з сям'і Пархоцікаў, якая жыве ў Белавежы. Бацька Андрэй быў вядомым кавалём. Пры ім гэта рамяство спазнаў яго сын Сяргей. І Сяргееў сын Генік пайшоў па дзеду.

— А ну йдзі сюды, бяры каня за нагу, а я буду падкоўваць яго, — загадваў бацька падрастаючаму Сяргею. Ужо ў 16 год (гэта значыць у 1939 годзе) Сяргей многа ўмеў, у кузні дапамагаў бацьку. Працы хапала. Пры бацьку сын навучыўся замаладу выконваць даволі складаныя работы. Падабалася Сяргею, што пакаралася яму жалеза, што пераўтваралася па яго волі ва ўсё тое, у што ён захоча. Найбольш любіў коней. Пагладзіць каня, пагаворыць да яго, прытуліцца. І нават неспакойныя коні рабіліся ціхімі і пакорнымі.



*

Канец чэрвеня 1941 года. Немцы былі ўжо ў Белавежы, калі вяртаўся Сяргей Пархоцік са школы лясной хімічнай прамысловасці ў Чарноўсі. Бацькі проста выплакалі яго ад немцаў, даказваючы, што іх сын не чырвонаармеец, а вучань рамеснай школы. Настаў страшны час нямецкай акупацыі. Пачаліся расстрэлы. Будынак пошты ў Белавежы стаў катоўняй для западозраных у нелаяльнасці. Сяргей працаваў на мясцовым шкіпінарным заводзе ў кузні. Рабіў кліны для разбівання карпіны, сякеры, матыкі і іншыя прылады. У гэты час даводзілася яму таксама ў бацькоўскай кузні падкоўваць коней, што рабіў з задавальненнем.

У 1943 годзе немцы вывезлі Сяргея ва Усходнюю Прусію на прымусовыя работы. І там, у цяперашнім Алецку, працаваў ён з іншымі юнакамі ў кузні.

— Цэлае шчасце, — гаворыць нам Сяргей, — што мой пан быў чалавекам нядрэнным. Было што есці, а нават у яго хаце мы слухалі радыёперадачы з Масквы.

Дзевяць месяцаў працаваў там Сяргей увесь час думаючы аб тым, каб уцячы. І ўрэшце рашыўся. Як заяц, дабраўся да Элка і там папаўся ў рукі жандармерыі. З уцекачамі не важдаліся немцы. Завезлі яго ў турму ў Сувалках. Думаў, што загіне. Аднак суджана яму было жыць. У той час неабходныя былі людзі для разгрузкі вагонаў з дрэвам. На гэтыя работы пачалі ганяць арыштантаў. Сяргей спрабаваў уцячы другі раз. Дамоў не дайшоў, ізноў папаўся ў нямецкія рукі. І тады завезлі яго ў Аўгустова капаць акопы. Нагляд за ўсімі быў суровы, за ўсякае парушэнне дысцыпліны пагражаў расстрэл. І вось здарылася зусім нечаканае. Наляцелі савецкія самалёты. Падчас бамбёжкі ў паніцы ўсе ўцякалі, хто куды мог. У гэтым часе Сяргей зноў рашыўся на пабег. Гэтым разам удалося. Дайшоў туды, куды запланаваў — да свайго роднага дзядзькі ў вёсцы Бялёва, што каля Каменца (32 км ад Белавежы), і там астаўся.

*

Набліжаўся фронт, і прыйшла пераможная Савецкая Армія. Сяргей стаў салдатам. Прайшоў кароткае абучэнне і быў накіраваны на фронт. Пасля цяжкіх баёў за Кенігсберг і ўзяцця горада, іх часць адправілі ў тыл на адпачынак. Там і дакацілася да іх вестка аб безагаворачнай капітуляцыі нямецкай арміі. Нязвыклы быў выбух радасці сярод салдат. Часць Сяргея перамешчана была ў раён Алецка і тут ён зноў заняўся кавальствам, цяпер вайсковым, гэта было яму па душы.

— Там захварэў я на тыф, — успамінае Сяргей. — Пайшоў на паўгода ў шпіталь. Мая часць тым часам паеха-

(Працяг на стар. 4)

## З рэпарцёрскіх запісак

## АДЗІН ДЗЕНЬ У ІСТОКУ

Быў гэта на рэдкасць сонечны, буднішні дзень, палавіна месяца жніўня. І завітаў я ў Істок таксама зараз пасля абеду. Ішоў не спяшаючыся па апусцелай вуліцы і любаваўся цішынёю ды спакоем. Людзі працавалі.

Істок знаходзіцца ў гміне Дубічы Царкоўныя. Начальнік гэтай гміны, тутэйшы чалавек, **Мікалай Чыквін,** калі мы гутарылі аб працы сялян, асабліва хваліў гаспадароў з Істока.

Істок і Ягаднікі, — гаварыў начальнік, — гэта найлепшыя ў нашай гміне вёскі.

— А каго б там наведаць? — пацікавіўся я.

— У Істоку з кожным гаспадаром цікава пагутарыць, — адказаў начальнік. — Працавітыя там людзі. Стараюцца гаспадарыць па-сучаснаму, дбаюць пра сельскагаспадарчы прагрэс.

— Усіх гаспадароў гэтай вёскі я, на жаль, не змагу наведаць, — гавару я Мікалаю Чыквіну.

— Тады зайдзіце да Грышы Герцуна, — доўга не думаючы, параіў мне начальнік. — Гэта малады гаспадар. Далі мы яму прыдзел на трактар і сельскагаспадарчыя машыны. Дзякуючы гэтаму, ён не толькі хутка спраўляецца з апрацоўкай уласнай зямлі, але яшчэ шмат дапамагае сваім суседзям. Таксама і Дзмітрый Бажко...

Я ўжо збіраўся да выхаду, і тады начальнік Чыквін яшчэ дабавіў:

— Добра было б, каб вы наведалі яшчэ і Антона Андрэюка. Гэта стары ўжо чалавек і даўно пара б яму на заслужаную пенсію, але ён трымаецца зямлі. І цалкам нядрэнна яшчэ гаспадарыць, хаця астаўся толькі са сваёй бабулькай.

*

Вёска Істок адным канцом сваёй ву-

(Працяг на стар. 4)



*Аляксей Бажко, селянін з вёсці Істок, уласнік лесапільні.*

## IX З'ЕЗД БГКТ

## НАШЫ БАЛЮЧЫЯ СПРАВЫ

**(З ВЫСТУПЛЕННЯ АННЫ КРАСЬКО — ДЭЛЕГАТА З ГДАНЬСКА)**

— Дзякуючы ахвярнай грамадскай працы многіх актывістаў наша таварыства мае значныя дасягненні, — сцвердзіла А. Красько, старшыня гуртка БГКТ у Гданьску. — Аднак ёсць і вялікія занядбанні. Найбольш балючая справа — гэта змяншэнне лічбы дзяцей і моладзі, што вывучаюць беларускую мову. Ужо відаць вынікі: многія маладыя беларусы не ўмеюць чытаць і пісаць на роднай мове. І як жа ж яны змогуць пазнаць і зразумець сваю, бацькамі створаную культуру, традыцыю, гісторыю свайго народа? Патрэба навучання роднай мове дзяцей з'яўляецца першапланавай справай для ўсіх нас. Дзеці гэтага могуць не разумець, але бацькі і адказныя за асвету і выхаванне людзі дасканала ўсведамляюць сабе важнасць гэтай праблемы і павінны зараз жа заняцца ёю. Празвінеў ужо апошні званок, каб вярнуць навучанне роднай мовы да такога стану хоць як у 60-70 гадах, калі многія тысячы дзяцей ахвотна вучыліся беларускай мове, знаёміліся з гісторыяй свайго народа.

А. Красько выступіла з тым, каб звярнуцца да адпаведных асветных уладаў з прапановай увесці ў школах абавязковае навучанне беларускай мовы ва ўсіх тых мясцовасцях, дзе жыве беларускае насельніцтва.

Непасрэдна са справай навукі роднай мовы звязана забеспячэнне кнігарань беларускімі кнігамі. Выданняў на беларускай мове амаль няма не толькі ў кнігарнях з замежнымі выданнямі ў Гданьску ці іншых вялікіх гарадах Польшчы, хоць ёсць там шмат кніг на розных мовах свету, але нават амаль



няма беларускіх кніг у Гайнаўцы. А вядома ж усім, што ў Гайнаўцы і яе ваколіцах найбольш беларусаў і якраз там найгоршае забеспячэнне беларускімі кнігамі. Паўстае пытанне: як разбудзіць любоў да роднага слова, як прывіць пашану да роднай культуры, як выхаваць патрыятычныя пачуцці ў маладога пакалення, калі яно не мае доступу да сваёй роднай літаратуры?

А. Красько як выхаванка Гайнаўскага беларускага ліцэя прыпомніла, што гэтая школа пачала сваю працу ў верасні 1944 года і ад таго часу мае аграмадныя дасягненні ў выхаванні і адукацыі тысяч беларускіх дзяцей і юнакоў. Звярнулася яна да ўсіх выхаванкаў ліцэя з заклікам арганізаваць з'езд яго абсальвентаў і выхаванкаў. Гэта быў бы красамоўны прыклад велічнай ролі навучання роднай мове ў грамадстве.

Трэба таксама больш умела і актыўна папулярызаваць усюды выданні ГП БГКТ. Гданьскі гурток, напрыклад, патрабуе, каб Галоўнае праўленне БГКТ сістэматычна прысылала яму ўсе свае новыя выданні, а таксама часцей, чым дагэтуль, накіроўвала ў Гданьск літаратараў і дакладчыкаў на аўтарскія сустрэчы, лекцыі, гутаркі.

Многія беларусы, сказала А. Крась-

(Працяг на стар. 4)

 

# VI ПЛЕНУМ ЦК ПАРП

Уначы з 5 на 6 верасня г.г. сабраўся на сваім VI пленарным пасяджэнні Цэнтральны Камітэт Польскай Аб'яднанай Рабочай Партыі. Пасяджэнне вёў член Палітычнага Бюро ЦК ПАРП, старшыня Рады Дзяржавы Генрык Яблонскі.

У сувязі з сур'ёзнай хваробай Эдварда Герка Цэнтральны Камітэт зволніў яго з функцыі І сакратара ЦК і члена Палітычнага Бюро ЦК ПАРП.

Цэнтральны Камітэт аднадумна выбраў Станіслава Каню І сакратаром Цэнтральнага Камітэта Польскай Аб'яднанай Рабочай Партыі.

Пленум выбраў Казімежа Барцікоўскага і Анджэя Жабінскага членамі Палітычнага Бюро ЦК ПАРП, а Тадэуша Грабскага, Здзіслава Куроўскага і Ежы Вайтэцкага — сакратарамі ЦК ПАРП.

**СТАНІСЛАЎ КАНЯ** нарадзіўся 8 сакавіка 1927 года ў вёсцы Враціанка, сёння Кросненскага ваяводства, быў сынам малазямельнага селяніна. Закончыў аддзяленне эканомії ў Вышэйшай Школе Грамадскіх Навук пры ЦК ПАРП.

Ад 1942 г. працаваў рабочым. У 1944 годзе ўдзельнічаў у руху Супраціўлення, у радах Сялянскіх Батальёнаў.

У красавіку 1945 года ўступіў у ППР. Браў дзейсны ўдзел у дзейнасці партыйных і маладзёжных арганізацый. Пасля заканчэння партыйнай школы пры ЦК ПАРП у 1952 годзе ён быў накіраваны на працу ў Галоўным Праўленні ЗМП на пасаду загадчыка Аддзела сялянскай моладзі і члена Прэзідыума ГП ЗМП.

У 1958 годзе пераходзіць на працу ў Варшаўскі Ваяводскі Камітэт ПАРП на пасаду загадчыка Сельскагаспадарчага аддзела, а пазней сакратара ВВК. У 1968 годзе яго назначаюць на пасаду загадчыка Адміністрацыйнага аддзела ЦК ПАРП.

На IV З'ездзе партыі быў выбраны наменікам члена ЦК ПАРП, а на V — членам ЦК. Ад красавіка 1971 г. — сакратар ЦК ПАРП. Выбраны VI З'ездам Цэнтральны Камітэт назначае яго наменікам члена Палітычнага Бюро і сакратаром ЦК ПАРП. Ад 1975 года — ад VII З'езда партыі з'яўляецца членам Палітычнага Бюро і сакратаром ЦК ПАРП. Пасол Сейма ад 1972 г.

Узнагароджаны Ордэнам Будаўнікоў Народнай Польшчы, Партызанскім Крыжам і іншымі ўзнагародамі.

## ХРОНІКА

■ 28 жніўня г.г. адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. На ім быў абмеркаваны праект плана ажыццяўлення прапаноў IX з'езда БГКТ. Гэтаму пытанню будзе прысвечаны пленум Галоўнага праўлення. Прэзідыум вырашыў правесці гэты пленум 28 верасня г.г.

■ 28 жніўня г.г. на 49-м годзе жыцця, пасля працяглай хваробы, памёр вядомы дзеяч БГКТ у Мілейчыцах, доўгагадовы член ГП БГКТ Янка Вішанка.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**
**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca: RSW „Prasa—Książka—Ruch" Kombinat Wydawniczo-Kolportażowy w Białymstoku.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Ogłoszenia przyjmuje: Biuro Reklam i Ogłoszeń ul. Wesołowskiego 1, 15—959 Białystok tel 232-41 w. 278, oraz wszystkie biura ogłoszeń RSW „Prasa—Książka—Ruch" na terenie całego kraju. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności. Prenumeratę przyjmują Oddziały RSW „Prasa—Książka—Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele w terminach: do dnia 25 listopada na I kwartał, I półrocze i na cały rok następny; do dnia 10 poprzedzającego okres prenumeraty na pozostałe okresy roku bieżącego. Cena prenumeraty: kwartalna 26 zł. półroczna 52 zł, roczna 104 zł. Jednostki gospodarki uspołecznionej, organizacje społeczne zamawiają prenumeratę w miejscowych Oddziałach RSW „Prasa—Książka—Ruch", w miejscowościach zaś, w których nie ma Oddziałów, w urzędach pocztowych. Czytelnicy indywidualni opłacają prenumeratę wyłącznie w urzędach pocztowych i u doręczycieli. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje RSW „Prasa—Książka—Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.

„Niwa" — PL ISSN-0546-1960. Nr indeksu 36671.
Zam. 1383. Nakład 6.700 I-3.





*Бацька і сыны Ліпкіны — злева Віктар, справа — Валерый.*

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З БЕЛАРУСІ**

## Бацька і сыны Ліпкіны—савецкія фермеры

На сесіі Магілёўскага Савета народных дэпутатаў, якая аналізавала гаспадарчую дзейнасць за мінулы год, сярод лепшых кіраўнікоў тройчы называлася прозвішча Ліпкін. Аднак гаварылася не пра аднаго і таго ж чалавека, але пра бацьку і двух яго сыноў: старшыню калгаса „Герой працы" Фёдара Ліпкіна, старшыню калгаса „2-я пяцігодка" Віктара Ліпкіна і дырэктара саўгаса „Кадзіна" Валерыя Ліпкіна.

Не ў адным часе і ў розных умовах пачыналася кар'ера Ліпкіных. Аднак тое, што яны ўзняліся на аднолькавую вяршыню, цалкам заканамерна.

Ранейшы камандзір партызанскай брыгады Фёдар Ліпкін узначаліў калгас „Герой працы" ў першыя пасляваенныя гады. У спадчыне яму дасталася: адзін трактар, шэсцьдзесят кароў, што ад ветру падалі, руіны спаленай фашыстамі разам з людзьмі вёскі, ды з дваццаць работнікаў — жанчын і дзяцей. Вядома, за тры гады акупацыі (1941-1944) гітлераўцы абярнулі ў руіны ўсю рэспубліку.

Едучы праз гаспадарку, няцяжка заўважыць сярод поля высокі комін. Ён перашкаджае ў працы, але ніхто не адважваецца разваліць яго. Тут стаяў ільнозавод — першы гаспадарчы аб'ект, які збудавалі калгаснікі „Героя працы" пасля вайны. Старэйшыя людзі памятаюць, як доўга спрачаліся, што рабіць з грашмі за прададзеную прадукцыю: раздаць калгаснікам ці купіць грузавы аўтамабіль? Сталі на другім — без сытнай ежы і добрай вопраткі яшчэ можна было як-небудзь абысціся. Але цяжкіх паклажаў знясіленыя жаночыя плечы не вытрымоўвалі. Гэты нязвыклы помнік — адзінае, што засталося ад мінулага ў сённяшнім калгасе. Таму ён і дарагі людзям.

На месцы зямлянак выраслі добрыя сялянскія дамы. Для моладзі, што больш любіць гарадскія ўмовы жыцця, збудавалі больш за сорак кватэраў з усімі выгодамі. Калі за першы год калгас прадаў дзяржаве 300 кілаграмаў мяса — было два валы ваду вазіць і адзін з іх нагу зламаў — то ў мінулым годзе — амаль што 300 тон, малака — больш за паўтары тысячы тон. Збор збожжа за гэты час павысіўся з 8-10 да 34,3 цэнтнера. Гадавы даход сярэдняй сям'і калгасніка такі ж, які ў 1955 годзе быў даход усяго калгаса. А перадавікі атрымоўваюць і болей. Працаўніца свіной фермы Анна Гапаева і яе мужык Уладзімір, рабочы, напрыклад, зарабілі ў мінулым годзе разам 7.389 рублёў. Пётр Цітоў, што працуе на быдлячай ферме, са сваёй жонкай-даяркай — 7 048 рублёў, трактарыст Дзмітры Козік з жонкай, якая працуе ў полі, — 5 014 рублёў. З гэтай сумы, як вядома, сялянам не трэба плаціць ні за жыллё — яны маюць уласныя дамы, ні за навуку дзяцей, ні за лекарскую дапамогу.

На Віктара і Валерыя Ліпкіных бацькоўскі „манумент", як сыны ахрысцілі комін, не робіць асаблівага ўражання. Яны — прадстаўнікі пакалення, што нарадзілася пасля вайны і не адчула на сабе вялікіх нястачаў. У тым часе, бацька з бухгалтарам па дзесяць разоў пералічвалі першы скромны калгасны даход, хлапчукі тады яшчэ і лічыць не ўмелі. Затое цяпер „варочаюць" тысячамі. Чысты даход з гаспадаркі, якую ўзначальвае Валерый, склаў у мінулым годзе 425 тысяч рублёў — нават крыху больш, чым з калгаса бацькі. З гаспадаркі Віктара даход меншы — 67 тысяч рублёў. Гэта і зразумела — яго саўгас абшарам у тры разы меншы.

Нягледзячы на розніцу ва ўзросце, і бацька і сыны Ліпкіны аднолькава ўмеюць шанаваць грамадскі грош, знаходзяць яму найлепшы ўжытак. Гэта першая рыса, што яднае іх як кіраўнікоў і дазваляе зразумець, чаму ўсім тром сяляне даручылі такія адказныя і клапатлівыя пасады. Бацька Ліпкін поўнасцю механізаваў працу жывёлаводаў. За яго прыкладам пачаў перабудоўваць фермы Віктар. Валерый ператварае свой саўгас у вялікую спецыялізаваную гароднінную гаспадарку. Коштам дзяржаўных датацый і ўласных, саўгасных сродкаў ідзе будаўніцтва вартасцю ў 8 мільёнаў рублёў. Тут паўстане цяплічны аб'ект — 6 гектараў пад шклом, будзе 700 гектараў са штучным увільгатненнем зямлі, вырасце навейшы гандлёвы цэнтр з кавярняй, гасцініцай і іншымі пунктамі паслугаў, механізаваныя майстэрні, малочны комплекс. 300 сем'яў згуляюць наваселле ў кватэрах з выгодамі як у горадзе.

Вядома, працоўны дзень у сялян яшчэ не ўсюды нармаваны. А кіраўнік гаспадаркі наогул не мае спакою ад світання і да змяркання. Але ніводзін з Ліпкіных не спадзяецца толькі на тыя веды, якія здабыў раней, яны знаходзяць час для навукі. Фёдар Ліпкін не прапускае навінак агранамічнай літаратуры. Ён — гаспадар-практык і адчувае патрэбу тэарэтычных ведаў. Валерый пад кіраўніцтвам вучоных з Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі вядзе доследы над штучным палівам гародніны. Сабраныя назіранні ён мае намер абагульніць у доктарскай дысертацыі. У прыватнай бібліятэцы Віктара на відным месцы стаіць томік трактатаў Жана Жака Русо. „Ці не занадта адлеглыя думкі французскага

(Працяг на стар. 4)




**Сямейная размова ● Бабка Дамініка ● Мінскі маторны завод ● Скарбы Чыжоўскай царквы ● Вера палітрука Локцева ● Гародчык Цёткі Мальвіны ● Весткі з Трасцянкі, Арэшкава, Нараўкі, Гайнаўкі, Міхалова, Бельска, Падбелля, Старыны ● Калі ў сне нешта губляем ● Што Кастусю найлепшае ў жыцці ● Развучваем беларускую песню „Завушніцы".**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 14 IX** — 6.20 TTR Uprawa roślin, sem. III. 6.50 Mech. rol. 7.20. TTR. RTSŚ — Nasze spotkania. 7.40 Nowoczesność w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Telewizjada. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 9.25 Antena. 9.55 Centralne Dożynki — 1980. 13.00 Dziennik. 13.20 Przygody Sindbada. 13.45 **Tylko w niedzielę.** 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.10 Z biegiem lat z biegiem dni odc. II pt. „Sezonowa miłość. 21.40 Sportowa niedziela. 22.00 **Tylko w niedzielę** (cd).

**Poniedziałek 15 IX** — 12.45 TTR, RTSS — J. pol. sem. I. 13.25 Chem. sem. I. 15.20 Pr. dnia. 15.25 NURT — Psych. 15.55 Obiektyw. 16.30 Zwierzyniec. 16.55 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.25 Poradnia zdrowego człowieka. 17.50 Polskie drogi — odc. III pt. Najspokojniejsze miejsce na świecie. 18.50 Dobranoc. 19.00 Radzimy rolnikom. 19.10 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr Tel. I. Iredyński „Wizyta" 21.10 Horyzont. 21.40 Śladami Chopina: Czechy — film muz. 22.10 Zacznijmy od Mony Lizy — pr. publ. 22,40. Dziennik.

**Wtorek 16 IX** — TTR, RTSS — J. pol. sem. I. 6.30 Chem. sem. I. 9.00 J. pol. kl. I. lic. 11.00 J. pol. kl. III lic. 13.25 TTR, RTSS — Fiz. sem. III. 14.00 Hod. zwierz. sem. III 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16,30. Klub Seniora. 16.55 Skojarzenia. 17.15 Dom i my. 17.35 Królik Bugs przedst. — amerykański film anim. 18.00 Magazyn Młodych. 18.50 Dobranoc. 19.00 Skarbiec. 19.30 Dziennik. 20.10 Film fab. 21.15 Panorama. 21.55 Aktor i piosenka — pr. rozr. 22.25 Dziennik.

**Środa 17 IX** — 6.00 TTR, RTSŚ — Fiz. sem. III. 6.30 Hod. zwierz. sem. III. 9.55 Hist. kl. V. 12.45 TTR, RTSŚ — Mat. sem. I. 13.25 Wskaz. met. sem. I. 15.20 Pr. dnia. 15.25 NURT — mat. 15.55 Obiektyw. 16.15. Dziennik. 16.30 Dla dzieci; Michałki. 16.55 Puchar UEFA. Śląsk Wrocław — Dundee (Szkocja). 18.50 Dobranoc. 19.00 Camerata. 19.30 Dziennik. 20.10 Budka Suflera — pr. rozr. 21.25 Puchar UEFA. Manchester United — Widzew Łódź. 22.15 Trybuna Literacka. 22.45 Dziennik.

**Czwartek 18 IX** — 6.00 TTR, RTSŚ — Mat. sem. I. 6.30 Wskaz. met. sem. I. 8.10 Przysp. obr. kl. VIII i I Lic. 11.00 J. pol. kl. VIII. 12.50 J. pol. kl. I—IV Lic. 13.25 TTR, RTSŚ — Mat. sem. III. 14.00 Biolog. sem. III. 15.20 Pr. dnia. 15.25 Decyzje piętnastolat. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Czwartek TDC. 17.30 Magazyn bezp. ruchu drog. 18.00 Poligon. 18.25 Turniej reporterów. 18.50 Dobranoc. 19.00 Sonda. 19.30 Dziennik. 20.10 Kto zabił miss Ameryki — ameryk. film fab. 21.45 Pegaz. 22.35 Opowieści wawelskie. 23.05 Dziennik.

**Piątek 19 IX** — 6.00 TTR, RTSŚ — Mat. sem. III. 6.30 Biolog. sem. III. 8.10 Geogr. kl. VII. 9.55 Pr. dla kl. IV. 11.00 Wych. ob. kl. VII. 12.45 TTR — Uprawa rośl. sem. I. 13.25 TTR — Mech. rol. sem. I. 13.55 Red. szk. zap. 15.20 Pr. dnia. 15.25 Nurt — Ped. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Kółko graniaste. 16.55 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.15 Daleko od szosy odc. VII „We dwoje". 18.40 Radzimy rolnikom. 18.50 Dobranoc. 19.00 Telewizja Młodych. 19.30 Dziennik. 20.10 Potyczki rodzinne. 21.05 Teatr Tel. A. Schnitzler — Miłostka. 22.30 Matia Bazar — pr. rozr. 23.10 Dziennik.

**Sobota 20 IX** — 6.00 TTR — Uprawa rośl. sem. I. 6.30 Mech. rol. sem. I. 7.00 Uprawa rośl. sem. III. 7.30 Mech. rol. sem. III. 9.25 Pr. dnia. 9.30 Żołnierski rodowód. 10.00 Poranek z kulturą. 11.30 Klub 6 kont. 12.30 Na piastowskich wzgórzach — pr. muz. 13.10 Człowiek, Ziemia, Kosmos. 13.40 Teatr Małych Form. 14.10 Dziennik. 14.25 Sezam. 14.50 Film fab. 16.35 Pr. rozr. 17.30 Mistrz. Świata w akrobatyce sport. 18.25 Świat, który nie może zaginąć — film przyr. 18.50 Dobranoc. 19.00 Pr. muz. 19.30 Dziennik. 20.10 Historia Manon Lescaut i kawalera des Grieux — serial TV franc. 21.50 Rewia gwiazd. 22.45 Dziennik. 23.00 Ulice San Francisco — ameryk. film. krym. (ua)

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 12 IX** — 20.35 Hokej. Czechosłowacja — ZSRR.

**Sobota 13 IX** — 13.45 Film fab. 17.50 Nie do wiary. 18.55 Film fab. 21.40 Koncert.

**Niedziela 14 IX** — 13.00 Film fab. 15.50 Klub podróży. 16.50 Film anim. 17.00 Panorama międzynarodowa. 18.00 Hokej. Czechosłowacja — ZSRR. 20.35 Koncert.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Violette i Francoiss — fr. 16—17. Ucieczka na Atenę — ang. 18—19. Zabijcie czarną owcę — pol. 20—21.

**Bielsk Podl.** Komisarz w spódnicy — fr. 15—16. Pierwsza miłość — wł. 17—18. Chciałbym się zgubić — pol. 19—20. Spotkanie — ang. 21.

**Czeremcha** Bilet powrotny — pol. 16—17. Droga daleka przed nami — pol. 20—21.

**Gródek** Ptaki ptakom — pol. 20—21.

**Hajnówka** Polowanie na muchy — pol. 15—16. Trzecia część nocy — pol. 17—18. Lokis — pol. 19—20.

**Michałowo** Buffalo Bill i Indianie — USA 16—17. Julia — USA 18—19. Nie ma róży bez ognia — pol. 20—21.

**Mielnik** Diabli mnie biorą — fr. 17. Przepraszam, czy tu biją — pol. 20—21.

**Milejczyce** Trzeba zabić tę miłość — pol. 17. Romantyczni — pol. 20—21.

**Narew** Gwiazdy poranne — pol. Colargol na Dzikim Zachodzie — pol. 17—21.

**Narewka** Dyrygent — pol. Placówka — pol. 17—21.

Беларуская літаратура
Аляксандар Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯНКА КУПАЛА — ЧАСТКА XI

Характэрны ў сшытку з польскімі творамі верш пад загалоўкам „Miłuję Cię, ziemio“. Адна са строф гэтага твора гучыць пафасна і вельмі вымоўна:

Miłuję jak jesteś szeroka i długa,
Przed laty dwuchsetnie liczącej się miary,
Gdy bił ci pokłony i władca i sługa,
Gdzie słońcem, gdzie gromem szumiały sztandary.

I верш „Leć piosenko“, у якім паэт займаецца візіяй будучага, і верш „Miłuję Cię, ziemio“, дзе Купала звяртаецца да гістарычнага мінулага, дасканала характарызуюць настроі паэта ў час пісання польскіх твораў. Былі гэта настроі наскрозь рамантычныя. Справа ў тым, што рамантыкі асуджалі сучаснасць, захапляліся мінулым, верылі ў будучыню. Якраз такі падыход да справы характэрны не толькі для прыгаданых вершаў, але ён тыповы для ўсіх польскіх твораў паэта. Праявіўшы наіўную веру ў ідэальную будучыню ў вершы „Leć piosenko“, Купала выявіў сваё захапленне мінулым у вершы „Miłuję Cię, ziemio“. Па сутнасці і адзін і другі верш аднолькава плыткі і наіўны.

Уласна кажучы, мы не ведаем, аб славе якой зямлі гаворыць малады паэт. Невядома, ці мае ён на думцы Вялікае княства Літоўскае. Хутчэй за ўсё гаворыць аб слаўным мінулым шляхецкай Рэчыпаспалітай. Было б вялікай наіўнасцю мецъ за гэта прэтэнзіі да маладога паэта. Мы ўжо гаварылі аб ролі польскага фактара ў сямейным жыцці Луцэвічаў і аб выхаванні Купалы на ўзорах польскай культуры і літаратуры.

Здаецца, аднак, што пачынаючы паэт інстынктыўна здаваў сабе справу з бессэнсоўнасці фасцынацыі мінулым або будучым, таму матыў гэты больш не паявіўся ў яго вершах.

Расчараваўшыся ў грамадскіх праблемах, Купала паспрабаваў заглыбіцца ў свет інтымнай лірыкі. У вершы „W noc majową“ заклікае ён сябе і сваю каханую адцурацца ад чалавечых спраў і патануць у хвалю інтымнай роскашы.

Zapomnijmy na wszystko, na życie, na ludzi, na świat;
Na cóż dali nam ludzie i świat ten i byt?
Jedne troski, cierpienia, co z nami jak cienie mkną w ślad,
Więc, więc dalej w ten raj, gdzie miłości lśni świt,
Śmiało, śmiało w ten raj swoim duchem się wznieś
Swoją główkę czarowną na piersi mej złóż,
Weź me serce dziewczyno i pierścień weselny mój weź
Za swój wieniec spowity i z mirtów i z róż.

Амаль у кожным радку прыведзенага верша знаходзім пацвярджэнне паэтычнай няспеласці маладога паэта. Верш напоўнены метафарамі і параўнаннямі, якія сотні разоў былі ўжо выкарыстаны іншымі аўтарамі. Аднак, вядома, амаль усе пачынаючыя аўтары, не маючы сваёй уласнай паэтычнай сістэмы, карыстаюцца з сістэм чужых. Такая з'ява выступае і ў маладога Купалы.

М. Шаховіч

## З народных гаворак

**Ацё!** — форма на адганянне свіней, асабліва калі тыя нахальна лезуць пры вылІванні ў карыта ежы. Ацё пушлі! Выліті нэ дадут, просто ў відро ліэзут.

**Гужа!** — менш-больш тое ж значэнне, што і ў папярэднім, толькі больш строгае, выгаваранае з большай злосцю. Найчасцей ужываецца пры выганянні свінні з нейкай шкоды, прыкладна, з градак. Гужа! Коб на тэбэ конці! Дэ ж ты вліэзла?!

**Гусь!** — форма на праганянне гусей. Калі гэтая ж форма ўжывалася ў некалькікратным паўтарэнні, дык набірала значэння прыклікальнага. Гусь! Ну, на пудвуорак. Гусь-гусь-гусь, — сідіэла Марылька на порозі і склікала гусі.

**Пыль!** — тое ж самае значэнне, што і папярэдне, толькі ў аднясенні да качак, або малых гусянят ці качанят. Як гэтая, так і папярэдняя формы, калі выступаюць паадзіночна, часта ўжываюцца, як: „Пыля!“, „Гуся!“. Пыль-пыль-пыль, — і качанятка збігаліся, бо віэдалі, што дадут ім йесті.

**Эля!** — паганянне каня. Эля, Лысы! Эля! — вымахуваў діэд бічом. Эля! — чулося з усіэх бокуоў, але куонь стояў, як укопаны. Ні з міэстя.

*(Зубава, гміна Бельск Падляшскі)*



*Гравюра Ф. Скарыны на тытульным лісце кнігі „Ісус Сірахаў“. Выйшла ў чэшскай Празе з датай 5 снежня 1517 года. На гравюры паказаны дыспут вучоных.*

**КНІЖНАЯ ПАЛІЦА**

# СКАРЫНА НА ПАДЛЯССІ?

Кожная новая публікацыя, што датычыць выдатнага беларускага гуманіста і пачынальніка друкавання кніг на беларускай мове Францішка Скарыны (жыў і дзейнічаў у гадах 1490-1540), не можа не выклікаць у нас жывога зацікаўлення, асабліва калі яна не толькі дае больш новае асвятленне вядомых ужо фактаў, але таксама ўзбагачае іх свежымі даследаваннямі. Якраз такія якасці ўласцівы кнізе **„Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве“**, якую выдала маскоўскае выдавецтва „Наука“ ў мінулым годзе. Яе склалі дваццаць тры даклады і паведамленні з навуковай сесіі „Фёдараўскія чытанні 1977“, што праходзіла 15-16 снежня таго ж года ў Дзяржаўнай бібліятэцы імя У. І. Леніна ў Маскве. Яны падрыхтаваны выдатнымі савецкімі філолагамі, гісторыкамі, мастацтвазнаўцамі. Сярод іх, зразумела, значную групу складаюць вучоныя з Савецкай Беларусі, імі падрыхтаваны такія каштоўныя публікацыі, як: „Францішак Скарына і станаўленне беларускай літаратуры“ В. А. Чамярыцкім, „Заходнеславянская лексіка ў выданнях Ф. Скарыны“ А. М. Булыкам, „Мастацтва выданняў Францішка Скарыны“ В. Ф. Шматавым і інш.

Для нас, жыхароў Беласточчыны, найбольшую цікаўнасць прадстаўляе даклад навуковага працаўніка Аддзела рэдкіх кніг Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна ў Маскве Ю. А. Лабынцава **„Выданні Францішка Скарыны і іншых славянскіх першадрукароў у бібліятэцы Супрасльскага манастыра“**. Аўтар прыгадвае, што ў 90-я гады XVII стагоддзя пры Супрасльскім манастыры „была заснавана вялікая беларуская друкарня эпохі феадалізму, якая выпусціла каля 400 выданняў на беларускай, рускай, царкоўнаславянскай, польскай, лацінскай і літоўскай мовах, у тым ліку больш за 100 кірылаўскіх выданняў (г. зн. кірылаўскім алфавітам — М.Г.)“. Пры манастыры была бібліятэка рукапісных і друкаваных кніг на шматлікіх мовах. Яна паўстала ў першыя гады існавання манастыра, г.зн. каля 1500 г., а ўжо перад 1532 г. у ёй налічвалася 129 кніг, у 1557 г. — 209 кніг, у 1645 г. — каля 600 кніг. Як на тыя часы гэта быў багацейшы кніжны збор. У ім, паводле меркаванняў Ю. Лабынцава, былі таксама выданні Ф. Скарыны, між іншым, „Книга Иова Великого друку Скоринinnого“ — як запісана ў адным з дакументаў. Скарынінскія выданні перад заснаваннем друкарні ў Супраслі перапісваліся саматуж тутэйшымі манахамі. А пасля, калі ўжо працавала тут друкарня, з выданняў беларускага першадрукара супрасльскія друкары вучыліся высокаму выдавецкаму майстэрству і чэрпалі натхненне з яговых слоў да сваёй працы „к пожитку посполитого доброго не боле истое причины иже мя мластивый Бог с того языка на свет пустил“. Але ўздзеянне скарынінскага пачыну на колішнім Падляссі нельга абмежаваць толькі Супраслем. 150 гадамі раней яно выявілася ў друкарні І. Фёдарава і П. Мсціслаўца ў Заблудаве. „Творчае заснаванне традыцый Скарыны ў кнігадрукарскай практыцы Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца вельмі яскрава выказала сябе і ў самім кірунку іх выдавецкай дзейнасці і ў іх методыцы падбору чыста тэхнічных і арнаментальных сродкаў афармлення кніг“ — сцвярджае А. Ф. Коршунаў у дакладзе „Традыцыі Францішка Скарыны ў выданнях яго паслядоўнікаў“.

Пры нагодзе дадайма, што наша Падляшша першай паловы XVI стагоддзя было добра вядома Ф. Скарыне. Ён сама меней тры разы праязджаў праз яго па Вялікай Дарозе з Вялікага княства Літоўскага ў Каралеўства Польскае: у 1504 г. падаючыся з роднага Полацка ў Кракаўскі універсітэт, перад 1522 г. пераязджаючы з чэшскай Прагі ў Вільню, каля 1532 г. едучы на судовую справу ў Познань і, магчыма, каля 1534 г., калі ён канчаткова пакідаў Радзіму і пераязджаў на пасаду каралеўскага лекара і садоўніка ў чэшскую Прагу. Няма сумнення, што наш першадрукар затрымоўваўся, і пэўна не толькі на начлег, у тадышніх Крынках, Гарадку, Нарве, Бельску і іншых мясцовасцях. На жаль, дагэтуль няма пацвярджэння пра гэта ў дакументах, усё астаецца ў сферы меркаванняў і здагадак.

**М. Гайдук**

## Не толькі сабе

Жыхары Міхалоўскай гміны вядомы грамадскімі пачынамі. Пабудавалі яны многа дарог, пасадзілі шмат дрэў паабапал дарог і лесу, пабудавалі нямала стражацкіх рамізаў і пачакальняў на аўтобусных прыпынках ПКС. У канцы мінулага года сяляне з Сушчы пабудавалі пачакальню па ініцыятыве солтыса гэтай вёскі. У бягучым годзе пабудавалі пачакальню жыхары вёсак Азяблы і Ляўшы. Ініцыятарам пабудовы быў солтыс Мікалай Азябла, сын Сцяпана, з вёскі Азяблы. Стаіць яна сярод поля на аўтобусным шляху ПКС Беласток — Міхалова — Падазераны. На пабудову былі неабходныя дошкі. Па дазволу гміны сяляне ссеклі пару сосен на ПФЗ і падрыхтавалі будаўнічы матэрыял. Ужо ад пачатку мая бягучага года з пачакальні карыстаюцца ўсе. Найбольш служыць яна моладзі, якая адсюль штодзень даязджае ў школу.

**(яц)**

**БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-80**



*Аліна Бурыла з бельскага белліцэя. II месца ў катэгорыі фальклорнай песні.*
*Фота М. Шаховіча.*

**З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ**




Дзень схіляецца к вечару. Сонца сплывае па небасхіле за гарызанталь. Неба на захадзе яркае, чырвонае, нібы зарыва ад пажару. Нідзе ні хмурынкі, ні адрабіны імглы. Паветра празрыстае, лёгкае.

— Заўтра будзе добрая пагода, можна ісці да сена, — скажа нейкі стары, глянуўшы на захад.

Такое бытуе ў народзе перакананне. Неба з'яўляецца адным з народных барометраў. Хаця аб прадказванні пагоды будзе гаварыцца ў асобных адрэзках, але ўсё ж і цяпер варта гэта адзначыць. Паказальнымі былі асабліва захад і ўсход сонца. Калі сонца сядала і неба было чырвонае, але бліжэй гарызонту віднелася нешта падобнае на збітую імглу — назаўтра пагоды не будзе. Будзе імглiста, сыра. Таксама не прадказвала добрай пагоды і тое, калі сонца сядала за хмару і скрывалася раней, чым дайшло яно да гарызанталі. Тады абавязкова будзе дождж. Прадбачвалі і ветраную пагоду. І зноў паказальнікам было неба ў час захаду сонца. Калі яно было чырвона-сіняе, пакрытае клубястымі воблакамі, а ў паветры адчувалася сухасць, дык згодна з народным перакананнем — назаўтра сухі моцны вецер.

Хаця не такое, але пэўнае значэнне ў падказванні пагоды меў і ўсход сонца. Неба на ўсходзе зачырванелася. Бліснулі першыя промні. Сонца часткова выглянула і схавалася ў хмару. Значыць, пагоды не будзе. Можна нават чакаць дажджу. А вось і паявілася ў паветры імгла. Калі яна разам з усходам сонца асядзе на зямлю расою — будзе сонечна, калі падымецца ўгару — пойдзе дождж.

Ноч набірала сілы. У небе, нібы ў падсвечніку, адна за адной загарэліся свечкамі зоры. Усё аж трымціць. А вось і месяц.

— Паглядзі, паглядзі, — паказваюць падлётку на месяц. — Бачыш, як брат брата на вілах трымае.

Гэтак паясняюць віднеючыя на месяцы плямы. Спалучылі іх з матывам першага біблійнага братазабойства. Гэта проста Каін трымае на вілах Авеля.

— Будзе вайна, — скажа раптам нехта, глянуўшы ў начное неба. — Будзе, бо бачыце, якія слупы цягнуцца, — і пакажа на светла-белыя дарогі на зорным небе.

А гэта проста малочны шлях, туманнасць, якія відаць зорнай ноччу. Народ спалучаў іх з прадбачаннем вайны або нейкай вялікай катастрофы ці агульналюдской трагедыі. Магчыма, што перад нейкім няшчасцем нехта якраз заўважыў на небе „слупы“ і ад гэтага часу паяўленне іх спалучаюць з прадказваннем нейкай бяды. Вось словы аднаго інфарматара з Зубава, што на Бельшчыне: „Будэ вуйна. Глянь на нэбо, якіе стоўбы ідут. Пэрэд тым, як прыйшоў ніэмэць, таксама такіе тягнуліся. Добрэ помэтаю“.

У залежнасці ад напрамку, у якім ішлі па небе слупы, вызначалі месца, адкуль прыдзе трагедыя.

Пагоду прадказвалі і па начным небе. Асабліва зімою. Калі вакол месяца віднеўся яркі „аўрэол“ — назаўтра меў быць вялікі мароз. Зімняе начное неба прадказвала таксама поспехі і ўпадкі ў гаспадарцы. Прыкладна ў ваколіцы Бельска — калі на Куццю ўначы на небе многа зор, дык значыць будуць несціся куры і будуць добра лупіцца яйкі.

Істотнае значэнне ў чалавечым лёсе і жыцці мае Месяц. Паводле народнага верапераканання, мае ён у сабе нейкую таямнічую моц, скрытую сілу, пры дапамозе якой уздзейнічае на чалавека. Але аб Месяцы наступным разам.

**Міхась Шаховіч**

Імпартгумар




З раніцы на тоненькай інтымнай ноце спяваў ліпеньскі дожджык сваю ненадакучлівую калыханку.

Супрацоўнік групы ХРАП (ці, можа, якой іншай) Суслікаў Аўдзей Яўсеевіч пасля комплекснага абеду за рубель пятнаццаць капеек глядзеў асалавелымі вачамі на кіраўніка групы Сыча Сымона Сымонавіча, які ўважліва чытаў нейкую важную паперу. Аўдзей Яўсеевіч прыкладаў нечалавечыя намаганні, каб не заснуць, аднак каварны бог Марфей пакрысе скарыў Аўдзея Яўсеевіча, галава яго апусцілася на часопіс з разгаданым красвордам, а праз некалькі мінут яму пачаў сніцца сон, пастаўлены па жахлівым сцэнарыі.

Сніласся Аўдзею Яўсеевічу, што ён пасля комплекснага абеду за рубель пятнаццаць капеек глядзеў асалавелымі вачамі на кіраўніка групы Сыча Сымона Сымонавіча і прыкладаў нечалавечыя намаганні, каб не заснуць, аднак каварны бог Марфей пакрысе скарыў Аўдзея Яўсеевіча, галава яго апусцілася на часопіс з разгаданым красвордам і ён соладка захроп.

Кіраўнік групы Сымон Сымонавіч адарваўся ад важнай паперкі і закрычаў:

— Спаць у рабочы час!!!

Аўдзей Яўсеевіч усхапіўся і вінавата залыпаў вейкамі.

— Які сорам! Я вас пакіну без месячнай прэміі! Не! Я вас, Суслікаў, пазбаўлю месячнай і квартальнай прэмій плюс трынаццатай зарплаты. Заўтра прашу паказаць справаздачу аб вашай рабоце за месяц.

І вось тут узмакрэлы Аўдзей Яўсеевіч прачнуўся.

Дождж скончыўся. Сонечны зайчык лізаў лысіну Сымона Сымонавіча, які спакойна спаў на пульхнай папцы для папер.

„Прысніцца ж такое“, — падумаў Суслікаў, глытнуў вады і крыху супакоіўся.

**Віктар Шаўчэнка**



*На шчасце!*

З „Весніка Задрыпоніі“

**ЛЕПШ МЕНШ, ДЫ ЛЕПШ!**

Па-новаму клапоціцца аб якасці абслугоўвання кліентаў загадчык піўнога бару С. Нічыпаровіч. Ён зусім не разбаўляе піва з вадой, ён яго проста не даліве!

**ПЫТАННЕ РЫЖАГА АЛЁШКІ**

Ці выпрацоўваецца імунітэт да аплявухі?



**Чужым розумам жыў — эканоміў на сваім.**






### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Састарэлы, з адутлаватым тварам мужчына, разглядаючы здымак у газеце, раптам стукнуў сябе далонню па лбе і радасна ўсклікнуў:

— Ба, Міхасік! Сыночак! Васемнаццаць гадоў пра цябе нічога не ведаў. А ён, абармот, як вымахаў! Токар-наватар! А ён, абармот, ні гу-гу. Нарэшце, знайшоўся, шэльма!

І бадзяга-бацька жвава і задаволена, як перад чаркай, пацёр рукі.

*

Хансен пазваніў па тэлефону свайму знаёмаму.

— Адну хвілінку, — сказаў той, — я крыху прыглушу радыё.

Хансен пачуў у трубцы гукі спрэчкі, лаянкі. Праз некалькі хвілін яго знаёмы зноў узяў трубку.

— Аднак жа доўга вы прыглушалі радыё, — заўважыў Хансен.

— Дык жа трэба было выключыць радыё і ў суседзяў...



### ЗНОЙДЗЕНЫ ПРАТАТЫП

— Не зразумела, чаму герой вашай новай аповесці са станоўчага раптам трапляе ў адмоўныя?

— Разумееце, мая новая аповесць носіць крыху аўтабіяграфічны характар...

### БЯСПЛОДНАЕ ДРЭВА

— І чаму так доўга на гэтым дрэве няма груш? — пытае ў суседа Фама. — Я ж яго так пешчу колькі год.

— А таму, што на вярбе грушы не растуць, — адказаў сусед.

### ПАСЛЯ ВЯСЕЛЛЯ

— Ведаеш, любы, у мяне ёсць невялікі недахоп: не ўмею эканоміць грошы, — кажа маладая жонка.

— Нічога, даражэнькая. Навучышся, бо я яшчэ не навучыўся іх зарабляць.




### ПРЫСЯГА НА ШЛЮБЕ

— Бярэш?
— Але.
— Сабе?
— Нязжо ж каму.
— За жонку?
— Пэўна, што не за дзеўку.
— Не пакінеш?
— ... Н... не.
— Аж да смерці ?
— Вось — прычапіліся!

### ПОШУК

Шукаў я яе ўсюды. Але дзе там!... Можа, думаю, тут...

— Скажыце, калі ласка, у вас ёсць такая?.. Ну, каб вочкі блакітненькія, шчочкі ружовенькія, носік правільны... А валасы... валасы каб светлыя, шаўкавістыя, як лён.

— Не! У нас такую не знойдзеце. Пашукайце ў іншым месцы.

І я паімчаў далей.

— Дзень добры! Прабачце... У вас ёсць — вочкі блакітненькія, шчочкі ружовенькія, губкі бантікам... Адным словам, каб прыгожай была.

— Што вы?! Такіх у нас не бывае. Спытайце...

Выціраючы з ілба пот, я пабег у суседні магазін. Мне вельмі хацелася падарыць дачцы на дзень нараджэння прыгожую ляльку.

**В. Найдзін**

### ПАКРЫЎДЗІЛІ

Мама вучыць Сярожку лічыць.

— У мяне два яблыкі і ў таты таксама два яблыкі. Колькі ў нас усяго яблыкаў? — пытае яна.

У хлопчыка крывяцца губкі. Ён вось-вось заплача.

— Чаго ты? — пытае мама.

— Ага! У вас дык цэлых чатыры яблыкі, а ў мяне ніводнага.

### КАБ ВЕДАЛІ

— Ад гарэлкі розум мелкі....
— Навошта ж яе выпускаюць?
— Каб людзі ведалі, чаго баяцца трэба.




### ДАБРАК

Ён прасіў, маліў кабету:
— Будзь маёй — аддам паўсвету...
А каб шлюб з ёй скасаваць,
Ён гатоў і свет аддаць.

### ЗАЙШЛІ Ў ТУПІК

— І вы дасюль не прымірыліся?
— Не помнім, за што пасварыліся.

### ПРАСПАЎ

— Чаму ж вы мне, — спытаў
Платон, —
Лякарства не далі на сон?
— Вы моцна спалі у той час,
Не дабудзіцца было вас.

**А. Лешчанка**



*Без слоў.*





### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Анны Дарашкевіч з Мялешак змяшчаем песню*

## „Najtrudniejszy pierwszy krok”

**Słowa: Wiktor Leliwa**
**Muzyka: Jarosław Kukulski**

Chociaż to zdarzenie
przeżył każdy z nas,
chcę je opowiedzieć dzisiaj wam:
maj przystrajał ziemię
w kolorowy płaszcz,
gdy poznał się z panią pan.

Najtrudniejszy pierwszy krok,
zanim innych zrobisz sto.
Najtrudniejszy pierwszy gest,
już przy drugim łatwiej jest.
Najtrudniejszy pierwszy krok,
potem szybko mija rok.
Najtrudniejszy pierwszy dzień,
jutro sam przekonasz się!

Szybko mija wiosna,
gaśnie lata żar,
jesień pożegnalne listy śle.
Gdy się trzeba rozstać,
rzucasz bukiet barw,
lecz nie wiesz, jak żegnać się.

Najtrudniejszy pierwszy krok...

Gdy samotnej zimy
masz już całkiem dość,
czekasz, aż nadejdzie nowy maj.
Przyjdzie z nim ktoś inny,
całkiem inny ktoś
i znowu wszystko jest naj...

Najtrudniejszy pierwszy krok...




### ЛАЯНЦЫ — БОЙ!

Вучоныя ўзнімаюць трывогу адносна засмечвання нацыянальнай мовы ўсемагчымымі бруднымі словамі і выразамі. Яны сцвярджаюць, што амаль усе мовы свету ўсё больш трацяць сваю першапачатковую прыгажосць і музыкальнасць.

Таму зараз у некаторых краінах пачалі праяўляць рупны клопат аб тым, каб пазбавіць мову ад скажэнняў. У Бельгіі гэта кампанія набыла назву барацьбы супраць непарламентарных выразаў. Накіроўвае яе дзейнасць таварыства па барацьбе з лаянкай. Кожны з членаў таварыства ў дварах, на вуліцах, каля магазінаў, кінатэатраў вывешвае разнастайныя лозунгі, плакаты і табліцы. Сэнс іх зводзіцца да заклiку: усімі сіламі пазбягайце, паважаныя грамадзяне, лаянкі, змагайцеся з ёю і вучыце гэтаму іншых, прыцягвайце да барацьбы сваіх знаёмых і блізкіх!..

Падобныя арганізацыі паявіліся таксама ў Канадзе, Аўстраліі, Фінляндыі і некаторых іншых краінах. Яны вядуць кіпучую дзейнасць, скіраванню на ахову мовы ад грубасцей. Але, як ні дзіўна, гэта не дае пажаданых вынікаў. Агітацыя агітацыяй, а жыццё жыццём. І нават самыя перакананыя змагары за чыстату нацыянальнага слоўніка ўсумніліся ў якіх-небудзь поспехах. Да таго ж вучоныя прыводзяць несуцяшальныя факты з гісторыі. Яны сцвярджаюць, што барацьба за мову вялася яшчэ ў старажытныя часы. У XVI стагоддзі ў Страсбургу нават сам цэзар Візантыі ўключыўся ў кампанію па абароне мовы. Па яго загаду аматарам лаянкі салдаты адразалі язык. Аднак і гэтая мера не дапамагла.




**Для жаданняў няма мяжы, ёсць мяжа для магчымасцей.**

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020